# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1767) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 25 САКАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.



**У ПРЫТОКАХ НАРАЎКІ.** Фота Я. Целушэцкага.




— Выйдзеце з Нараўкі і просценька, па дарозе да Семяноўкі пойдзеце. Там будзе гэтая вёска, — сказала мне бабуля, якой я дапамог дабрацца да аптэкі.

— Зараз за СКРам пачынаецца, — удакладніў мне мужчына. — А хто вам патрэбны? Іхні хутар першы з таго канца!

Вёска Міклашэва, праўда, пачынаецца амаль зараз за Нараўкай. Хутары, да якіх вядуць свае дарожкі, трохі аддаленыя ад шашы. Пасля пачынаецца вёска — тыповая „вуліцоўка". У пэўны момант я стаю на скрыжаванні дарог. Куды мне ісці?

— А да каго? — пацікавіўся са свайго панадворка мужчына ў гумовых ботах. — Да Леванеўскіх? А якіх? Дзе Сашык жыве? Ды Сашык ужо даўно памёр.

— Я да сына Сашыкавага, брата Аляксандра. Таго, што з Варшавы на бацькаўшчыну вярнуўся. З жонкай Любай і з сынам Юркам прыехалі.

Халадэча, сячэ драбніца. Вось зіма, студзень — лістапад. Рукі акалелі. Не магу ўтрымаць фотаапарат. Здымкі былі б нядрэнныя — вось бы мне ўвекавечыць настрой Міклашэва, дрэмлючага сярод драўляных плоцікаў, пад старымі дрэвамі, прыгожы драўляны прыпынак ПКС. А гэта што? З-за разваленай хаткі ляціць сіне-шэры дым. Каля вогнішча, над якім вісіць кацялок, завіхаецца жанчына ў парваным кажусе...

Іду далей. Канец вёскі. Можа, гэты домік невялічкі — Леванеўскіх? Шукаю веснічак. З вакна звочыла мяне Аліна, нявестка Леванеўскіх. Праз хвіліну паявіўся і Яўген.

Люба, жонка Геніка, паехала на некалькі дзён да дачкі ў Варшаву (пакінулі кватэру ёй, у яе там ужо свая сям'я). Аліна з Юркам, пакуль не пабудуюцца, жывуць то ў Аліны на Баравых, то сюды прыязджаюць з некалькімесячнай Мартынай.

Юрка пазнаёміўся з Аляй, калі яна яшчэ працавала ў Нараўчанскай гміне. Пасля перайшла ў асяродак здароўя як сацыяльны працаўнік. Праца вельмі цікавая, з людзьмі — трэба знаць патрэбы ўсіх слабых, пакінутых, хворых, бедных. У снежні Аліна нарадзіла дачушку. 15 сакавіка збіралася ісці на працу, але, вось, дастала паведамленне, што звальняюць яе з работы. Прыйшоў такі час, што кожнае прадпрыемства можа само вырашаць аб сваіх кадрах. Нічога, што не хапае „сацыяльных" працаўнікоў, як і раней не хапала ў Нараўцы. Нічога, што Аліну раней пасылалі на курсы павышэння кваліфікацый. Ну і што з таго, што яна хоча працаваць там, дзе працавала? Дзіцятка, дай Бог, здаровае — можа ім заняцца бабуля, а кожны грош патрэбны, бо будуюцца... Добра, што Юрка працуе! А цяпер, бывае, звальняюць абоіх бацькоў з працы, і няма да каго пайсці шукаць дапамогі!.. Хіба што, да міністра Куроня...

Добра, што, праўду кажучы, ужо на сваім. Яўген Леванеўскі з моладу выехаў адсюль у глыб Польшчы. Такія справы былі — і эканамічныя, і палітычныя. Працавалі абое з Любай у вайсковасці. Цяпер ужо на пенсіі, не скажаш, што ўжо пенсіянеры. Генік высокі, стройны, энергічны, жвавы. Люба — прыгожая красой, якая не прамінае да старасці. Вядома, Яўген ведаў, каго выбраць! Абое дасканала валодаюць беларускай мовай. Нараўчанская іх гаворка не набрала ніякага налёту, быццам бы і не бывалі больш за трыццаць год ад нас далёка!

— Вярнуліся мы сюды, да сябе. Хочам зноў запусціць карэнні.

— Праўду гаворачы, вы і не пакідалі гэтай зямлі...

Займаюць цяпер палавіну бацькоўскай хаты — у другой палавіне жыве брат з Генікавай мачыхай. Хата, звонку невялікая, у сярэдзіне даволі прасторная. Цяпер пануе ў ёй Мартынка, спакойнае немаўлятка. Слухае ўважліва, калі я над ёю дэкламую: „Чыжык, чыжык, дзе ты быў? У гасціне мядок піў" ці „Казаньку белую".

(Працяг на стар. 6)

## АДОЗВА

**БЕЛАРУСЫ!**

**Першы раз за сваю гісторыю можам мець уладу ў сваіх руках. Трэба выйграць выбары ў гмінах і мястэчках, у якіх жывем. Тым больш, што сёння мы разам з Праваслаўнай царквою. Мы павінны таксама здабыць істотную лічбу мандатаў і ў тых гмінах ды гарадах, у якіх мы ў немалой меншасці. Каб так сталася, трэба арганізаваць мясцовыя беларускія выбарчыя камітэты. Яны выпрацуюць мясцовыя праграмы патрэб насельніцтва і выставяць кандыдатаў у рады.**

**Мы, беларусы, павінны галасаваць усе і на сваіх. Іначай не можам, калі не хочам, каб намі кіравалі іншыя. Байкот выбараў не мае сэнсу. Рады ўсё роўна будуць створаны. Але ці нашыя?!**

**Новыя рады не будуць пустым звонам. Ад іх і толькі ад іх будуць залежаць практычна ўсе справы на тэрыторыі гміны ці горада. Яны будуць вызначаць пра лёс гаспадарак і падаткі. Ад іх будуць залежнымі рамесныя варштаты, фабрыкі, фірмы. Іх сесіі акрэсляць эканамічныя і грамадскія накірункі развіцця ваколіцы. Будуць яны мець нават сваю паліцыю ды скарбовую секвестратарскую службу. Грошы і тавары з тэрыторыі гміны нікуды не пойдуць без згоды тутэйшай Рады. Ніхто і нічога не загадае супраць яе волі. Часы камандавання сконччацца. Вялікая незалежнасць ад ваяводскіх і цэнтральных органаў забавязвае мець у радах людзей разумных і сумленных. Калі так не збудзецца, у гмінах і гарадскіх управах пачнуць панаваць тыя ж камбінатары і спрытнюкі. Не можам дапусціць да гэтага, бо будзе нам кепска. І нікуды не зможам пайсці са скаргамі. Будуць казаць нам: каго выбралі, таго і маеце. Не можна свой лёс даваць у непрыязныя рукі.**

**Беларусы! Людзі родныя!**

**Не прызвычаіліся мы быць людзьмі самастойнымі і моцна стаяць за свае інтарэсы. Не было для гэтага варункаў раней. Цяпер яны дадзены нам. Калі не выкарыстаем іх, то чаго мы будзем вартыя? Таму мы павінны жыць выбарамі. Ад іх вынікаў будзе залежаць будучыня кожнай сям'і, гаспадаркі ці перспектыўнасць прыватнай або грамадскай ініцыятывы. Ужо не той час, каб можна было хаваць галаву ў пясок і спадзявацца на ласку зверху. Каб лепей жыць усім, трэба справядлівасці, трэба праўды. Трэба, каб наш голас лічыўся.**

**Беларускі выбарчы камітэт**

## НА МЯЖЫ

# Лаўрэат Ленінскай літаратурнай прэміі

Сталінская, а пасля ленінская літаратурныя прэміі, праўдападобна, былі ўстаноўлены як супрацьстаўленне Нобелеўскай прэміі. Галоўная мэта сталінскай і пасля ленінскай прэміі заключалася ў стымуляванні развіцця літаратуры. Калі аднак прыгледзімся да доўгага спіску лаўрэатаў сталінскіх літаратурных прэмій, дык не можам сумнявацца, што атрымлівалі іх перш за ўсё тыя пісьменнікі, якія бяскрытычна славілі геніяльную сталінскую палітыку ў галіне культуры, гаспадаркі, вайсковасці, вырашэння нацыянальных спраў. Часта былі лаўрэатамі сталінскіх літаратурных прэмій пісьменнікі, якія прадстаўлялі ў сваіх творах зусім фальшывую карціну калгаснай вёскі. Прыкладам могуць быць аповесці С. Бабаеўскага „Кавалер Залатой Зоркі" і „Святло над зямлёй", у якіх выступіла каляровая карціна шчаслівага калгаснага жыцця, тады, калі калгасы знаходзіліся ў стане руіны і катастрофы. І так, мана ставілася намнога вышэй, чым праўда. І ўсё ж такі не хачу сказаць, што сталінскія прэміі не атрымала некалькі добрых пісьменнікаў. Прыкладамі могуць быць М. Шолахаў і А. Талстой. Аднак гэта выключэнні, якія не ломяць нормы.

Пасля XX з'езда партыі, на якім Хрушчоў развянчаў веліч і геніяльнасць Сталіна, сталінскія прэміі пачалі называцца ленінскімі. Цікава і недарэчліва тое, што сёння ва ўсіх энцыклапедыях, даведніках і падручніках аб тых пісьменніках, якія атрымалі сталінскія прэміі, гаворыцца, што атрымалі яны дзяржаўныя літаратурныя прэміі. Маем тут дачыненні з рэліктамі сталінскай метадалогіі. Нельга перайменоўваць сталінскія прэміі на дзяржаўныя, бо гэта спроба змяняць мінулае, а такія спробы не маюць ніякіх шанцаў. Мінулае можна паказваць, але не змяняць. І таму трэба гаварыць ва ўсіх падручніках і энцыклапедыях, што Купала і Колас атрымалі сталінскія літаратурныя прэміі, а не дзяржаўныя.

Здавалася, што подых новых часоў, звязаных з XX з'ездам, назаўсёды зменіць сітуацыю і што крытэрыем прызнавання ленінскіх літаратурных прэмій будуць выключна мастацкія каштоўнасці літаратурных твораў. Можа гэта і праўда, што пасля XX з'езда мастацкія вартасці былі браны пад увагу ў большай ступені, чым у час культу Сталіна. Аднак вядомыя нарады, прысвечаныя літаратуры і мастацтву на пачатку 60-ых гадоў, у час якіх выступалі такія „выдатныя" літаратурныя крытыкі, як Хрушчоў і Ільічоў, перакрэслілі надзеі на тое, што ленінскія прэміі будуць давацца тым пісьменнікам, якія гэтага заслугоўваюць. Магло б здавацца, што пасля ўпадку Хрушчова нарэшце затрыўмфуе рацыяналізм і годнасць у галіне прызнавання ленінскіх прэмій. Аднак выступіла падзея, якая сталася доказам таго, што ўсе недарэчнасці ў справе прызнавання ленінскіх літаратурных прэмій у мінулым аказаліся чымсьці моцна нявінным і нашкодным. Маю на думцы прызнанне Ленінскай літаратурнай прэміі Генеральнаму сакратару ЦК КПСС і старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Леаніду Брэжневу.

Незалежна ад таго, колькі разоў будзем пераглядаць спіскі лаўрэатаў ленінскіх літаратурных прэмій са сталінскіх і пасляcталінскіх часоў, не знойдзем другой постаці аж такой бяздарнай, такой мізэрнай і безнадзейнай, як постаць Брэжнева-літаратара.

Пераглянуў я дакладна і яго „Малую зямлю", і „Адраджэнне" і „Цаліну" і ўбачыў мізэрныя зборнічкі рэпартажных запісак на вельмі сярэднім журналісцкім узроўні. Ужо не хачу гаварыць аб вельмі верагодных плётках, быццам Брэжнеў з'яўляецца інспіратарам названых вышэй твораў, але не іх аўтарам. Зрэшты, адкіньма гэта. Прымем, што Брэжнеў быў сапраўдным аўтарам „Малой зямлі", „Адраджэння" і „Цаліны". На жаль, іх літаратурныя каштоўнасці ні ў якім выпадку не матывуюць прызнання ім прэміі. Няма найменшых сумненняў, што брэжнеўскія творы кампраметуюць імя ленінскай літаратурнай прэміі. Не ведаю дакладна прозвішчаў тых высокіх і непадкупных асоб, якія падпісаліся пад дэкрэтам аб прызнанні прэміі Брэжневу, а вельмі хацеў бы ведаць, калі яны яшчэ жывуць, хацеў бы паставіць ім простае пытанне: якой высокай праўдай, якім прынцыпам кіраваліся яны, згаджаючыся на такое?

Цікава, ці не знойдзецца нехта такі, што выкрэсліць прозвішча Брэжнева са спіска лаўрэатаў ленінскіх літаратурных прэмій. А можа ўжо гэта зроблена? Марксісцкая метадалогія дазваляла праводзіць такія працэдуры. Быць можа, гэта права маёй наіўнасці, але неяк веру, што ў будучым такія выдатныя „літаратары", як Брэжнеў, не будуць лаўрэатамі найвышэйшых прэмій. А можа, мне толькі так здаецца.

**Алесь Барскі**

# ВЫБАРЫ'90

### УЗНІКАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ВЫБАРЧЫЯ КАМІТЭТЫ

23 лютага ў Беластоку форум беларускіх дзеячаў стварыў Беларускі выбарчы камітэт. У склад Камітэта ўвайшлі прадстаўнікі Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Беларускага аб'яднання студэнтаў і таксама асобы, не згуртаваныя ў гэтых арганізацыях. Галоўным заданнем Беларускага выбарчага камітэта будзе дапамога ў стварэнні сваіх адпаведнікаў ў гмінных і гарадскіх асяродках, дзе пражывае беларускае насельніцтва, і падрыхтоўка да выбарчай кампаніі ў сувязі з выбарамі ў тэрытарыяльныя самаўрады ў гэтым годзе.

Беларускі выбарчы камітэт вылучыў са свайго складу Выбарчы штаб, які будзе каардынаваць дзеянні тэрытарыяльных камітэтаў, дапамагаць у правядзенні выбарчых сходаў, несці дапамогу ў складанні выбарчых спіскаў і ў прапагандзе вылучаных кандыдатаў.

Склад выбарчага штаба наступны: Яўген Пятэльскі, Пятро Скепка, Ірына Парфенюк, Віктар Стахвюк (шэф ВШ), Антон Мірановіч (намеснік шэфа ВШ), Янка Мордань, Міхалай Кусачук, Мірaслаў Пякарскі, Яўген Альховік, Віталь Луба, Уладзімір Юзвюк, Яўген Хмялеўскі.

Беларускі выбарчы камітэт прыняў тэкст адозвы да выбаршчыкаў.

1 сакавіка стварыўся Беларускі выбарчы камітэт у Гарадку (старшыня Міхалай Адамік), 4 сакавіка — у Гайнаўцы (старшыня Сяргей Харкевіч) і ў Белавежы (старшыня Ян Тарасэвіч), 5 сакавіка — у Бельску (старшыня Васіль Ляшчынскі), 10 сакавіка — у Нараўцы (старшыня Міхал Харкевіч), 12 сакавіка — у Нурцы-Станцыі (старшыня Міхалай Кусачук), 15 сакавіка — у Нарве (старшыня Міхалай Каролька) і ў Кляшчэлях (старшыня Аляксандр Насковіч), 18 сакавіка — у Орлі (старшыня Марэк Хмялеўскі).

**(ям)**

### ГУЛЬНЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Цяжка, пакутліва цяжка пракладае сабе дарогу беларускі палітычны рух на Беласточчыне. Вялікія палітычныя змены, што наступілі ў краіне на працягу апошняга года, яшчэ поўнасцю людзьмі не асэнсаваны. Выхад у дэмакратыю, у палітычны плюралізм — адкрыты, але шмат хто баіцца зрабіць першы крок, пераступіць парог.

Беларускім выхадам у дэмакратыю павінны стацца сёлетнія выбары ў тэрытарыяльныя самаўрады. Нам нельга рабіць памылак. Такіх, напрыклад, як у мінулагодніх выбарах у парламент. Выбары на Беласточчыне павінны даць беларусам уладу, рэальную ўладу ў гмінах і мястэчках, дзе яны пераважаюць. Калі будзе інакш, ніякай дэмакратызацыі беларусы не адчуюць. Будзе тое, што і раней: ад нашага імя кіраваць намі будуць чужыя людзі.

Усё паказвае на тое, што выбары на Беласточчыне прымуць форму канфрантацыі дзвюх палітычных сілаў: з аднаго боку — грамадзянскія камітэты „Салідарнасці", з другога — беларускія выбарчыя камітэты. Кажучы агульней, выбары будуць нацыянальным плебісцытам: палякі супроць беларусаў. Канфрантацыя гэтая накінута нам зверху. Бо не мы, беларусы, вырашаем пра палітыку „Салідарнасці" ў адносінах да нацыянальных меншасцяў. Беластоцкая „Салідарнасць" не прызнае беларускага палітычнага руху.

Беларускія дзеячы, у прыватнасці, кіруючыя асобы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання зрабілі шмат у напрамку кансалідацыі ўсіх беларускіх сілаў перад выбарамі. І, зрабіўшы адпаведныя высновы з памылак недалёкага мінулага, атрымалі маральную падтрымку Праваслаўнай царквы на Беласточчыне. Гэтае аб'яднанне, якое грунтуецца на супольнасці лёсаў праваслаўя і беларускасці на Беласточчыне, дае заруку на будучы поспех.

Гэтай акалічнасці не могуць не бачыць кіраўнікі „Салідарнасці". для якіх такое аб'яднанне з'яўляецца палітычнай небяспекай. Чаму? — гэта ўжо крыху іншае пытанне, і сёння спыняцца на ім я не буду.

Артыкул „W trosce o Mir Boży" у „Кур'еры Поранным" (26.02.90) быў першым сігналам, што салідарнікі пачалі перадвыбарчую гульню, накіраваную на разбіццё беларускай згуртаванасці. Артыкул гэты, які з'яўляецца справаздачай са спаткання прадстаўнікоў Грамадзянскага камітэта „Салідарнасць" ў Беластоку з уладыкам Савам, перайначвае змест гутаркі на тым спатканні і яўна дае зразумець, што „Салідарнасць" не бачыць патрэбы паразумення з беларусамі (з „нацыяналістычнымі беларускімі групамі", як гаворыцца ў тэксце). Уладыка Сава вымушаны быў выдаць камюніке, у якім запярэчвае, быццам бы ён выступаў на тым спатканні супроць беларусаў і даў згоду на перадвыбарчае супрацоўніцтва духоўных з грамадзянскімі камітэтамі.

Другі тэкст, які нарабіў шмат замяшання ў беларускім асяроддзі, гэта так званая адозва „Do społeczności Polaków, Białorusinów i Ukraińców prawosławnych i katolików", якую падпісаў, супольна з чатырма іншымі асобамі, і Сакрат Яновіч. У адозве, між іншым, заклікаецца да стварэння выбарчай кааліцыі нацыянальных меншасцяў з грамадзянскім рухам (чытай: салідарніцкім). У заяве, складзенай Сакратам Яновічам у сувязі з гэтым („Газета Всплучэсная", 9-10-11.03.90), чытаем: "Брак спадзяванага ініцыятарамі гэтай адозвы водгуку з боку беластоцкага Грамадзянскага камітэта мацуе маю ўпэўненасць наконт слушнай дарогі, якую выбраў беларускі рух". Дарога гэтая — стварэнне незалежных беларускіх выбарчых камітэтаў і вылучэнне сваіх кандыдатаў.

Адозва гэтая была складзена больш двух месяцаў назад. Распаўсюджваецца яна цяпер, калі ўжо ўсім стала ясна, што паразумення няма і не будзе. З якой мэтай?

**Ян Максімюк**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## 25 САКАВІК




**НАЙЛЕПШЫЯ ПАЖАДАННІ З НАГОДЫ СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

**БАС**

## ДВАЦЦАЦЬ ПЯТАГА САКАВІКА

**(Літаратурны мантаж)**

Хоць гэты дзень пагас ў тумане, Ты зноў стаптаная ляжыш.
І будні шэрыя над намі і на плячох пакоры Крыж...
Мы ж гэты Дзень успамінаем, сьвяткуючы Яго штогод.
Прывет Табе! Прывет Краіна, мы моцна верым, што ня згінем
Мы Твой абуджаны Народ!

*(Міхась Машара „25 Сакавік")*

Ен прыйдзе, гэты дзень, ён ня прыйсці ня можа!
Ён прыйдзе — й загудзе вясновы буралом,
Пакрышыць, разьмяце, раськідае, зьнішчожыць
Усё, што нам шляхі да волі замяло!

*(Наталля Арсеннева „Ён прыйдзе, гэты дзень")*

Ён наканец прыйшоў, чаканы ад стагодзьдзя
Той Сьветлы Дзень, Дзень вызвалення ад акоў.
Яго віталі гулкія вясеньнія разводзьдзі
І сонца зыркія праменьні ды сьпевы жаўрукоў.

А ён ішоў, падняўшы голаў сьмела.
Праз гарады і сёлы, паміж бароў і ніў.
Пагоня-грозная зноў капытамі загрымела
І Бел-Чырвона-Белы Сьцяг у высь блакітную паплыў.

І песьні зазьвінелі Няўміручага Народу
Ад Нёмна да Дняпра, ад Сожу да Дзьвіны:
— З дарогі, злыдні, бо мы нясём Свабоду,
Мы, Беларусі Вольнае Сыны! . . . . . .

*(В. Сініца „Сакавіковы Ранак")*

Падрыхтаваў **Васіль Сініца**

## ЗАПУСТЫ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

23.ІІ у Беластоку і 24.ІІ у Ольштыне адбыліся запусты беларускіх студэнтаў. У Ольштыне мерапрыемства арганізаваў БАС супольна з Радай Беларускай праваслаўнай моладзі. На плябаніі ў бацюшкі Аляксандра Шэломава гуляла каля 30 асоб.

Беластоцкае мерапрыемства праводзілася на Варшаўскай 11, дзякуючы прыхільнасці працаўнікоў БГКТ. Да трэцяй гадзіны раніцы пры добрай музыцы шумела больш 100 чалавек — студэнтаў і маладзейшых, перш за ўсё членаў Брацтва праваслаўнай моладзі.

**Б. К.**

## СУСТРЭЧА Ў ВАРШАЎСКІМ КЛУБЕ

Студэнты варшаўскіх вышэйшых школ 25 студзеня г.г. мелі магчымасць паслухаць надзвычай цікавыя ўспаміны Янкі Жамойціна. Выказваў ён свае жыццёвыя спасцярогі ў кантэксце падзей у Беларусі за апошнія 60 гадоў. Асаблівую ўвагу Янка Жамойцін прысвяціў нацыянальнаму руху моладзі ў час нямецкай акупацыі, хаця пачаў з ранейшага перыяду. Коратка апісаў умовы жыцця вёскі ў Заходняй Беларусі да вайны, свае „універсітэты", дарогу з Лідчыны ў Варшаву і назад. Яму, як пяцігадоваму дзіцяці, ужо тады ўрэзаўся ў памяць той уздым, звязаны з Грамадою, нейкія песні і сходы, зусім у той час яму незразумелыя. Потым была паступовая ліквідацыя ўсяго беларускага, курс на ўзгадаванне г.зв. праваслаўных палякаў і іншыя дзеянні. У 1939 г. у Заходнюю Беларусь прыходзіць Савецкая Армія. Стварэецца беларускае школьніцтва, абуджаецца вёска, але паступова ў школах усё большае месца займае расейшчына, а з вёсак вывозяцца „кулакі" ўслед за былымі паліцыянтамі, асаднікамі, палясоўшчыкамі. Не паспела як след раскруціцца адна машына тэрору, як яе змяніла другая — гітлераўская. Услед за немцамі ў Беларусі паявілася, з аднаго боку, польскае падполле, з другога — афіцыйная польская адміністрацыя. І адны і другія мелі супольную мэту: умацоўваць польскасць „усходніх крэсаў". У змаганні за рэстаўрацыю сталінскага рэжыму арганізаваліся савецкія партызаны. Разгарэлася бескампрамісная, шматбаковая барацьба. Гарэлі беларускія вёскі, гінулі нявінныя людзі і дабытак.

У такіх умовах нельга было сядзець з заложанымі рукамі, чакаць канца.

Для абароны беларускага насельніцтва ствараліся арганізацыі самаабароннага характару Частка патрыятычных дзеячаў пры дапамозе насельніцтва арганізавала абаронна-вызваленчы рух. Заданнем яго, між іншым, была абарона перад тэрорам, праніканне ў розныя арганізацыі і ўдзел у розных праявах грамадскага жыцця. Важным заданнем была, між іншым, ахова маладых людзей ад уплываў акупантаў, нацыянальнае ўсведамленне, выхаванне ў любові да Бацькаўшчыны, у пашане да народных традыцый, роднай мовы і культуры, асаблівa

(Працяг на стар. 5)

## ПРА БЕЛАРУСЬ У ЗАХОДНІМ ДРУКУ

У 1958 годзе выйшаў з друку на нямецкай мове энцыклапедычны зборнік „Малая Славянская Біяграфія", апрацаваны навукоўцамі Славянскага аддзела Мюнхенскага універсітэта. У ім, на апошніх старонках, у алфавітным парадку пералічаны прозвішчы важнейшых духоўных, культурных і навуковых прадстаўнікоў славянскіх народаў: балгараў, беларусаў, чэхаў, македонцаў, палякаў, рускіх, сербаў, украінцаў і харватаў. Кожнае прозвішча суправаджаецца звычайным у такіх выпадках кароткім біяграфічным апісаннем, размеры якога ўзалежнены ад важнасці, значэння апісанае асобы (ад некалькіх радкоў да цэлай старонкі). Біяграфічныя даведкі — у скарачэнні і даволі стандартныя: дата і месца нараджэння і смерці, нацыянальнасць, характар культурнай, навуковай ці іншай дзейнасці, пералік твораў і г.д.

Спісак беларускіх прозвішчаў з біяграфічнымі дадзенымі падрыхтавалі члены Мюнхенскага аддзела Беларускага інстытута навукі і мастацтва. У выніку працы сяброў Мюнхенскага аддзела БІНіМ у зборнік увайшло больш 60-ці беларускіх прозвішчаў з усяго гістарычнага перыяду Беларусі. Маем тут Ефрасінню Полацкую, Аўраама Смаленскага, Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага, Уладзіслава Галубка ды таксама сучасных аўтараў: Міхася Лынькова, Петруся Броўку, Аркадзя Куляшова.

У „Біяграфіі" найбольш багата прадстаўлены перыяд беларускага адраджэння, гэта значыць, — першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Гэта, бадай, з тае прычыны, што якраз гэты перыяд беларускага адраджэння адносна свабодны. У той жа час выраслі шырокія кадры беларускай інтэлігенцыі.

Дзеля глыбейшага ўяўлення аб форме і змесце лаведак прывядзем некалькі прыкладаў.

„Галубок Уладзіслаў. нар. 1882 г. у Менску. Беларускі драматург, рэжысёр і артыст. Заснаваны ім у 1920 годзе беларускі вандроўны тэатр быў адным з найпапулярнейшых у Беларусі. Галоўныя творы: драмы „Апошняе спатканне". „Суд" „Пісаравы імяніны". „Плытагоны" і інш. За нацыянальныя ідэі ў сваіх п'есах і ў рэпертуары свайго тэатру ў 1936 годзе быў арыштаваны і высланы, як „вораг народу". Далейшы яго лёс невядомы".

„Лынькоў Міхась, нар. 1899 г. Беларускі пісьменнік. Настаўнік, супрацоўнік Акадэміі навук БССР, член кампартыі з 1924 г., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, шмат разоў узнагароджаны. Супрацоўнік і рэдактар га-

(Працяг на стар. 4)

## У АБАРОНУ ПРАВАСЛАЎНЫХ ІМЁНАЎ

Рэдакцыя „Ніва" атрымала нядаўна пісьмо ад вядомага беларускага пісьменніка з Мінска Станіслава Шушкевіча. У сваім пісьме паважаны Станіслаў Пятровіч, між іншым, піша: „Ужо даўнавата ў часопісе „Полымя" быў фельетон „Бегаў Сева каля дрэва". Высмейваліся вершы, у якіх рыфмаваліся імёны (Сева — дрэва, Коля — поля, Пеця — вецер і інш.). Я маю на ўвазе, што і ў „Зорцы" часта рыфмуюцца дзіцячыя імёны. А Ваша газета цяпер мае падпісчыкаў і ў Беларусі, і ў іншых краінах. Зразумейце мяне правільна, хачацца падказаць Вам, каб на старонках „Зоркі" не было такіх выпадкаў. Я не хачу пакрыўдзіць Вашых паэтаў, але Вы ім далікатна падкажыце".

Вышэй цытаваны фрагмент пісьма датычыць выключна мяне, таму што я адзіны з „белавежцаў" змяшчаю на старонках „Зоркі" вершы для дзяцей, у якіх сапраўды мэтанакіравана выкарыстоўваю ўласныя імёны.

Корпаўся я ў гадавіках „Полымя". На жаль, не ўдалося мне адшукаць успомненага С. Шушкевічам фельетону. Нічога не ўдалося мне таксама знайсці на тэму рыфмавання ўласных імён і ў польскай крытычнай мастацкай літаратуры. Пераглянуў я многія зборнікі вершаў для дзяцей польскіх паэтаў. Пераканаўся, што нават такія вялікія польскія дзіцячыя паэты, як Ян Бжэхва і Юльян Тувім, надзвычай часта рыфмавалі ў сваіх дасканалых вершах уласныя імёны, а чытачы не высмейваюць гэтага, а надта любяць.

Магчыма, што беларускім мінскім пісьменнікам незразумелым з'яўляецца штучны падзел на Беласточчыне: калі праваслаўны — дык беларус, а католік — абавязкова паляк. Цэлымі дзесяцігоддзямі праводзіцца ў нас у Польшчы асіміляцыя нацыянальных меншасцей, часта высмейваюцца традыцыйныя праваслаўныя імёны: Сяргей, Мікалай, Вера, Надзея, Люба. Таму беларускі праваслаўны народ адракаецца ад гэтых імён, і яны сталіся ўжо рэліктамі. Таму вось у сваіх вершах для дзяцей я мэтанакіравана выкарыстоўваю гэтыя прыгожыя традыцыйныя праваслаўныя імёны, як горкі напамін беларусам, якія пазбаўляюць сваіх дзяцей і ўнукаў такіх імёны. Скажу адкрыта: выступаю ў абарону праваслаўных імён, з якімі дажываюць ужо свой век старэйшыя пакаленні беларусаў у Польшчы.

Нашу сённяшнюю сітуацыю на Беласточчыне і свой боль з гэтага повада я выказаў у вершы „Як жыць без Веры, без Надзеі":

Хоць час і горбіць нашы плечы,
Як перад многімі гадамі,
Люблю так ездзіць на сустрэчы
Я з дарагімі землякамі.

А на сустрэчах свае кніжкі
Падпісваў я, як памятаю,

(Працяг на стар. 5)



*Будынак у Крынках. Мал. У. Петрука.*

(Працяг са стар. 3)

### ПРА БЕЛАРУСЬ У ЗАХОДНІМ ДРУКУ

зеты „Камуніст" і часопіса „Полымя". Ад 1936 г. працуе ў Інстытуце літаратуры, мовы і мастацтва Акадэміі навук БССР. Прадстаўнік сацыялістычнага рэалізму: тэматыка аб працы і перавыхаванні чалавека".

У некаторых месцах заўважаюцца невялікія недакладнасці. Гэта з тае прычыны, што тэксты, складзеныя BIHIМам, канчатковa дапрацоўваліся сталымі супрацоўнікамі нямецкага выдавецтва. Можна меркаваць, што тэксты скарачаліся, пераставяліся або нават дапаўняліся. Аднак гэта толькі дробязі. Слова „Беларусь" перадаецца праз „Weissruthenien", „Weissruthenisch" і г. д. Гэтая аб'ектыўная, як на маю думку, праца значна пашырыла веды пра Беларусь у заходнім друку. „Малую Славянскую Біяграфію" можна знайсці ў многіх бібліятэках Заходняй Нямеччыны, у тым ліку ў Баварскай бібліятэцы ў Мюнхене.

**Ю. Л.**

# Беларуская мова ў Мінску

Летась у нашай сталіцы — горадзе Мінску, ды і ў другіх месцах Беларусі, гасцявалі школьнікі — дзеці беларусаў з Беласточчыны. І вось у цэнтры нашай сталіцы на Ленінскім праспекце (гэта было ўлетку) мы пачулі беларускую гаворку. Шчыры голас дзетак-беларусаў з Польшчы на роднай мове прывёў да здзіўлення мінчан. Вялікае ўражанне на людзей зрабіла гэтая група з 20 школьнікаў. Я не мог паверыць, што ў нашай сталіцы магчыма пачуць беларускую гаворку дзяцей-школьнікаў: у нас, у горадзе, не было беларускіх школ ці класаў, і родная мова не вывучалася.

Толькі з новага навучальнага года адчыніліся сем беларускіх школ. Там дзеці першых класаў вучацца на роднай мове. У астатніх класах — на рускай. Таксама адчынена больш сарака беларускіх класаў у рускіх школах, якіх тут больш, чым дзвесце.

Цяпер, з наданнем беларускай мове статуса дзяржаўнай, з часам мы пачуем на вуліцах сталіцы родную мову і дзетак і дарослых. Наша мова будзе жыць і квітнець! Шкада, што гэтага шчасця не ўсе дачакаюцца.

Я бясконца ўдзячны людзям, якія дбаюць пра сваё роднае слова. Як жа моцна павінны любіць сваю родную мову бацькі, каб перадаць гэтую любоў сваім дзецям!

**Мікалай Наско, Мінск**



Мікола Іваноў

# ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

— 18 —

**2.6. Сталінізм і нацыянальныя меншасці на Беларусі**

Паводле перапісу 1926 г. (адзінага адносна верагоднага перапісу насельніцтва, праведзенага ў міжваенным СССР) на тэрыторыі Беларускай ССР пражывала 4 млн. 983,9 тыс. насельніцтва. Сярод жыхароў рэспублікі было 80,6% беларусаў, 8,2% яўрэяў, 7,7% рускіх, 2% палякаў і 1,5% іншых (латышоў, літоўцаў, татараў, немцаў, украінцаў, цыганоў). Ленінскія планы ажыццяўлення новага курсу нацыянальнай палітыкі, вядомыя ў гістарычнай літаратуры як „нацыянал-нэп", прадугледжвалі залажэнне шырокай аўтаноміі амаль для кожнай з гэтых нацыянальных меншасцяў. Сталін жа надаў планам падобнай аўтаноміі якасна новую функцыю. Павінна яна была служыць процівагай беларусізацыі, своеасаблівым забеспячэннем супраць „празмернага" развіцця беларускай нацыянальнай ідэі, супраць магчымасці ўзнікнення сярод беларусаў рэальных сепаратысцкіх тэндэнцый.

Найбольш выразна гэтыя сталінскія маніпуляцыі з нацыянальнымі меншасцямі праявіліся на прыкладзе палякаў. Лічба палякаў на Беларусі на працягу 20-х — 30-х гадоў змянялася ад 100 да 400 тысяч (ад 2 да 10% агульнай колькасці насельніцтва) у адпаведнасці з палітычнымі патрэбамі дня. На пачатку 20-х гадоў у партыйным маскоўскім кіраўніцтве былі яшчэ жывыя надзеі на хуткую сусветную рэвалюцыю. У сувязі з гэтым лічылася, што з пункту гледжання інтарэсаў класавай барацьбы пралетарыяту мэтазгодна мець на Беларусі (як і на Украіне) як найбольшую лічбу мясцовых палякаў. Пры адпаведнай індактрынацыйнай апрацоўцы іх можна было паспяхова выкарыстаць у якасці рэзервовай рэвалюцыйнай арміі. У адпаведнасці з гэтымі задачамі старшыня Польскага бюро ЦК Кампартыі Беларусі Стэфан Гельтман з „бальшавіцкай перакананасцю" сцвярджаў, што ў 1926 г. на Беларусі было не менш 500 тысяч палякаў. З пачаткам жа беларусізацыі, калі партыя высунула свой чарговы лозунг аб неабходнасці першачарговай барацьбы з вялікадзяржаўным рускім шавінізмам, польская карта страціла значэнне, і лічба палякаў з дапамогай партыйнай „цудадзейнай палачкі" скарацілася да 100 тысяч чалавек. Канец 20-х гадоў. Партыя зноў мяняе сваю лінію: „мясцовы нацыяналізм" абвяшчаецца галоўнай небяспекай на фронце ідэалагічнай барацьбы. Пачынаецца брудная кампанія праследавання так званых нацдэмаў. Колькасць палякаў амаль аўтаматычна, але па партыйнаму загаду ўзрастае амаль утрая. Партыя праводзіць шырокую ідэалагічную кампанію, з мэтай усвядоміць цёмнаму каталіцкаму насельніцтву іх польскасць. І нарэшце 1936—1938 гады. Палякі абвяшчаюцца ворагам нумар адзін. Пачынаецца неспатыканае ў гісторыі чалавецтва праследаванне беларускіх каталі-

# СЛОВА ЯДНАЕ З РАДЗІМАЙ

„Чалавек павінен быць гордым з сваёй Бацькаўшчыны і жыць так, каб ягоная Бацькаўшчына была гордаю з яго“, — гэтыя словы Р. Дэйлі ўзяў эпіграфам да аднае са сваіх кніг амерыканскі вучоны, доктар тэалогіі Ян Пятроўскі. Відаць, гэтыя ж словы маглі б стаць і эпіграфам да распаведу пра аднаго з сыноў Беларусі, закінутага воляю лёсу ў Амерыку.

Хто ж такі Ян Пятроўскі?

Упершыню да савецкага чытача імя Яна Пятроўскага данесла „Ніва“. Гэта было кароткае паведамленне, што жыве на Фларыдзе чалавек, які з арыгінала перакладае на беларускую мову старажытнагрэчаскую літаратуру і выдае яе за ўласныя грошы.

Аказваецца, дзейнасць Яна Пятроўскага не абмяжоўваецца толькі перакладамі. Ён заснаваў у Штатах Беларускі харытатыўны адукацыйны фонд, які і займаецца выдавецкай дзейнасцю. Выдаўцы ганарацца тым, што ўжо паспелі зрабіць, а мы перакананы, што будзе гэтым ганарыцца і наша агульная Радзіма — Беларусь: шэсць тамоў Платона „Выбраныя дыялогі“, манаграфія Вернэра Ёгера „Тэалогія грэчаскіх думаннікаў“, „Універсальная дэкларацыя правоў чалавека“ (у беларускіх перакладах самога Яна Пятроўскага), „Роздумы“ Марка Аўрэлія (на беларускую пераклаў Міхась Кавыль), шэраг навуковых прац па антычнай літаратуры і філасофіі...

Зараз, калі на Беларусі з новай сілай буяе духоўнае адраджэнне, калі мы гаворым пра неабходнасць далучэння да сусветнай культуры менавіта праз роднае слова, кнігі гэтыя, многія з якіх вытрымалі па некалькі выданняў у ЗША, стануць істотнай бондай у гэтым духоўным адраджэнні на Беларусі.

Доктар Пятроўскі заўважае: „Чалавек мусіць быць духоўна абуджанаю адзінкаю. А многімі пытаннямі, якія стаяць зараз перад намі, дэталёва займаліся старажытныя грэкі: адукацыя, праблемы вайны і міру, дэмакратыя, правы чалавека і гэтак далей“. Перакладаючы творы старажытнай класікі, Ян Пятроўскі паступова склаў вялікую картатэку слоў — грэчаскіх і беларускіх адпаведнікаў. Грунтоўна апрацаваны двухтомнік вытрымаў ужо два выданні ў ЗША. А зараз Ян Пятроўскі рыхтуе і адваротны слоўнік — беларуска-грэчаскі, клапоцячыся пра сваіх паслядоўнікаў, пра тое, каб беларускія перакладчыкі маглі вывучаць старажытнагрэчаскія тэксты ў арыгінале.



Наша гаворка пра Яна Пятроўскага была б няпоўнай, каб мы не згадалі хоць некалькі старонак ягонай, шчыра скажам, нялёгкай біяграфіі.

Нарадзіўся ён у Слуцку ў 1905 годзе. Яшчэ юнаком у 1919 годзе, калі ў краіне панавала разруха пасля грамадзянскай вайны і нямецкай акупацыі, голад пагнаў яго з маці ў Вільню ў спадзяванні зарабіць на жыццё. Але якраз у гэты час пачалася польская акупацыя, і новыя ўлады закрылі мяжу. У 1940 годзе Вільня стала савецкай. Да таго часу Ян Пятроўскі быў ужо сур'ёзна зацікаўлены старажытнагрэчаскай літаратурай, нямала паспеў зрабіць у яе вывучэнні. Але — 1941 год, зноў вайна, зноў акупацыя.

Так згадвае сам Ян Пятроўскі: „Гестапа канфіскавала маю бібліятэку, а з ёю асабістыя дакументы, маю прыватную карэспандэнцыю, у рознай стадыі пісаны матэрыял і шкіцы, фатаграфіі. Усё гэта прапала“.

Пасля вайны трэба было пачынаць усё спачатку. Але ведаючы законы сталіншчыны, Ян Пятроўскі не рашаецца вяртацца на радзіму (вядома ж, рэпрэсіям падвяргаліся не толькі ваеннапалонныя, але і жыхары акупаваных тэрыторый). Пачынаюцца яго вандраванні па свеце не па сваёй волі. Толькі ў 60-х гадах ён знаходзіць сталае жыхарства ў ЗША, на Фларыдзе ў невялікім горадзе Гэйнсвілі.

Але дзе б ні знаходзіўся Ян Пятроўскі, з ім была яго родная беларуская мова, як кавалак Радзімы ў сэрцы.

**Вітаўт Мартыненка**

## У АБАРОНУ ПРАВАСЛАЎНЫХ ІМЁНАЎ

**(Працяг са стар. 4)**

Надзеям, Верам, Васям, Мішкам,
Сярожам, Толям, Мікалаям.

А ў час апошні няма болей
У нашых школах Надзі, Веры,
А ёсць Данусі, Стасі, Ёлі,
Бэаты, Весі, Казімеры.

І мне заўсёды на спатканні
Сумна становіцца ўжо неяк.
Мучыць складанае пытанне:
Як жыць без Веры, без Надзеі?

**Віктар Швед**

## СУСТРЭЧА Ў ВАРШАЎСКІМ КЛУБЕ

**(Працяг са стар. 3)**

моладзі, згуртаванай у масавай арганізацыі, названай „Саюзам беларускай моладзі“. Многія дзеячы таго руху, ва ўмовах небяспекі, пагражаючай з боку лютых акупантаў ды рознай масці калабарантаў (у тым ліку і ўласных — у стылі вядомага Акінчыца), ахвяравалі жыццё, перанеслі нялюдскія мукі ці зняволенне. Наколькі апраўданая гэта іх дзейнасць і ахвярнасць, павінна высніць гісторыя. На жаль, надалей з афіцыйных публікацый акупацыя Беларусі паўстае ў двух колерах — чорным і белым, і ніякіх пасрэдных адценняў, а гістарыяграфіі зусім няма.

Таму асаблівае значэнне павінна мець кніжка Юркі Туронка пра нямецкую акупацыю ў Беларусі. Можа будзе гэта пачатак да ўзважанай дыскусіі, пераацэнак, за якімі стануць факты і канкрэтныя доказы, а не прадузятасць і міфы.

**Мікола Ваўранюк**

Кніжку Юркі Туронка „Беларусь пад нямецкай акупацыяй“ (на польскай мове) можна купіць у ГП БГКТ у Беластоку і ў нашай рэдакцыі. Цана 12.000 зл.

---

каў, большасць з іх кіруецца ў напрамку шматлікіх на Беларусі мясцовых „Курапатаў“, а слова „паляк“ становіцца сінонімам ворага савецкай улады.

Чаму менавіта палякаў сустрэў такі трагічны лёс? Як сапраўды выглядае справа „польскасці“ на Беларусі? Пытанні гэтыя даволі складаныя, і адказ на іх не можа быць адназначны.

Спроба насвятлення панарамы нацыянальнай палітыкі на Беларусі ў гады сталінізму, аднак, не будзе паўнавартаснай, калі мы пакінем па-за ўвагай лёс малых нацыянальных меншасцяў: латышоў, літоўцаў, татараў. Кожная з іх налічвала ад 15 да 30 тысяч чалавек і ў агульнай масе насельніцтва былі яны мала прыкметнымі. Спецыфічнай іх рысай, аднак, было тое, што яны пражывалі кампактнымі групамі і ў раёнах свайго рассялення адыгрывалі адпаведную ролю. Латышы і літоўцы жылі галоўным чынам на Віцебшчыне, а татары — на Міншчыне (Узда).

Партыйная палітыка ў адносінах да латышоў і літоўцаў характарызавалася вельмі дакладным (калі не сказаць дагматычным) выкананнем рашэнняў IV кангрэса Камінтэрна (1923 г.), якія прадугледжвалі выкарыстанне нацыянальных меншасцяў у СССР у мэтах падштурхоўвання рэвалюцыі на гістарычных бацькаўшчынах гэтых меншасцяў. На Беларусі ў адпаведнасці з гэтымі мэтамі была закладзена сістэма латышскай і літоўскай аўтаноміі (нацыянальныя вясковыя саветы, латышскае і літоўскае бюро ЦК Кампартыі Беларусі, газеты на нацыянальных мовах, нацыянальныя літоўскі і латышскі сектары ў сістэме Акадэміі навук БССР, нацыянальныя выдавецтвы і т.п.). І ўсе гэтыя вельмі каштоўныя мерапрыемствы былі разлічаны ўсяго толькі на некалькі дзесяткаў тысяч людзей. Сутнасць падобных крокаў савецкіх улад, як мы ўжо раней канстатавалі, палягала на надзвычайнай прыхільнасці Леніна да швейцарскай кантанальнай сістэмы нацыянальнай аўтаноміі. Кантоны савецкага „вырабу“ павінны былі, паводле Леніна, забяспечыць як найбольш эфектыўную саветызацыю нават такіх малых нацыянальных меншасцяў. Аднак пасля смерці Леніна партыя ў асобе Сталіна бачыла ў гэтым перш за ўсё важны прапагандысцкі і ідэалагічны сродак прыбліжэння сусветнай рэвалюцыі. Гісторыя нядаўняй латышскай і літоўскай нацыянальных аўтаномій на Беларусі скончылася, як і іншыя марксісцкія эксперыменты савецкай улады, трагічна. З пачаткам калектывізацыі значная частка латышскіх і літоўскіх гаспадарак была залічана да катэгорыі кулацкіх. Пасыпаліся рэпрэсіі. У другой палове 30-х гадоў рэпрэсіі гэтыя сталіся амаль паўсюднымі. Большасць латышскага і літоўскага насельніцтва была выселена.

Што ж датычыцца беларускіх татараў, дык з імі адбылася зусім неверагодная гісторыя. Савецкая ўлада абвясціла сябе, як вядома, паслядоўным абаронцам і апекуном малых народаў. Тыя, хто за часы царызму праследаваліся найбольш жорстка, павінны былі атрымаць ад савецкай улады своеасаблівую кампенсацыю. У выпадку беларускіх татараў савецкія тэарэтыкі па нацыянальнаму пытанню (ініцыятыва ў гэтым выпадку зыходзіла ад урада Крымска-татарскай аўтаномнай рэспублікі) прапагавалі масавае перасяленне на Крым беларускіх татараў. Справа ў тым, што насельніцтва Крыма толькі на адну трэць складалася з карэнных жыхароў-татараў. Рэшта — гэта было насельніцтва наплывовае (галоўным чынам, рускае). Каб выправіць не вельмі выгадную для мясцовага камуністычнага татарскага кіраўніцтва статыстыку, прабавалі яны запрашаць на Крым беларускіх татараў. На Беларусь пачалі прыязджаць вярбоўшчыкі, прадстаўнікі татарскага крымскага ўрада. Адбываліся шматлікія сходы і мітынгі, на якіх беларускіх татараў агітавалі да перасялення.

Грандыёзная гэта акцыя скончылася, аднак, на нічым. Перасялілася ўсяго толькі некалькі сотень чалавек татарскай нацыянальнасці, але і яны большай часткаю неўзабаве вярталіся дамоў. Татарскі крымскі ўрад, апрача прапагандысцкай кампаніі, абсалютна не падрыхтаваўся да прыёму перасяленцаў. Павінны былі яны на свой страх і рызыку асвойваць дзікія крымскія стэпы. Дзеля гэтага не было ў іх ні сродкаў, ні спецыяльнай падрыхтоўкі.

*(Працяг будзе)*

# Вярнуцца ў Міклашэва

(Праняг са стар. 1)

Калі Аліна рыхтуе нешта гарачае, мы ідзем на панадворак. За намі ўсюды плятуцца два коцікі — выкармілі іх соскамі, і цяпер яны, як сабачкі, усюды лазяць за гаспадарамі. А там на ланцугу — велізарны Сыга. Яго Аліне падарыў дзядзька, перад матурай — маленькую, беспаможную псінку-талісманчык. Вось які вырас Сыга, як мядзведзь!

— Мой пасажны сабака, — смяецца Аліна.

Шчыра пільнуе Сыга новую гаспадарку. Не дасць нічога вынесці чужым, нават знаёмым — ані саломінкі.



*Аліна з дачушкай Мартынай.*

— Есць мнагавата — у дзень саган кашы, а еў бы яшчэ ў тры разы больш! Жонка купляла кашу ў краме, а бабы гавораць: „Ты што, Люба! Сабаку кашай карміць?! Дай крыху свінога, або спусці з ланцуга, няхай сам пракорміцца, то ж сабака! Хто то бачыў так карміць? Гэта ж не свіння, каб з яго пажытак быў!“

У клуні стаіць аўтамашына — старэнькая сірэна-фургон. Гэта маладыя купілі за бесцань ад аднаго хлопца з Медзвядзёў. Падрамантаваць, і будзе ездзіць. Купілі каля Плянтаў два гектары „бананзы“, з хацінкай амаль у руіне. Будуць будавацца і жыць па-новаму. Цяжка тут знайсці часам супольную мову з людзьмі, і застаецца адыйсці ў прыватнасць, у будаванне свету на свой лад.

Вось майстэрня-сталярня. Было ўжо крыху заказаў. Робяць дзверы, дзверкі, панелі. Машыны на старыя грошы каштавалі маёнтак. А як цяпер будзе з раменікамі? Малога бізнесмена дарэжуць падаткамі, вялікі будзе рос... Падлога заслана ружовымі і залацістымі стружкамі, пахне радасным, чыстым, новым.

Невядома, як тут ім будзе. Маладыя ўжо трохі закараніліся.

— А вы як адчуваеце сябе на новым месцы?

— Я ж гаварыў, што я тут — у сябе. А маладыя — яны разам. Тут я хачу пахваліць начальніка Нараўчанскай гміны. Ён вельмі добра падыходзіць да маладых. Стараецца дапамагчы ва ўсім, каб толькі маладыя засталіся ў гміне, асабліва той, хто адукаваны. Такія найбольш патрэбныя.

Патрэбныя нам кожная пара рук і кожнае сэрца, каб не пуставалі нашы вёскі.

**Лукаш Баравікі**
Фота аўтара

## Замалёўкі з жыцця

### ЗАМУЖАМ

— Ужо дваццаць два гады мы згодна пражылі са сваім мужам, — расказвае Геня. — Я і не думала, што ён будзе маім мужам. Мы з адной вёскі. Разам хадзілі ў школу. Ён быў старэйшы на год. Я яго дагнала і пакінула ў тым самым класе. Калісьці моладзь мала калі ішла далей вучыцца, і я засталася дома.

Пасля заканчэння школы пачалі мы хадзіць на танцы. Мой будучы муж таксама хадзіў. Ён хацеў заўсёды танцаваць толькі са мной. Бывала, што іншыя мяне бралі танцаваць, але ён стараўся мяне „адбіць“.

Бацькі і сёстры мае былі супраць яго. Не так можа яго, як яго маці. Яна была вельмі сварлівай, з усімі суседзямі перасварылася. Ведалі, што не будзе мне там жыцця. Хацелі мяне паслаць у горад да цёткі, каб я там пачала працаваць.

Адной летняй нядзеляй я мела выехаць, але стала інакш.

Неяк у пятніцу ішла я на поле ўкапаць трохі бульбы на вячэру. Мой Юрка сядзеў на валуне.

— Я чуў, што ты едзеш у горад...

— Так, еду.

— А пойдзеш за мяне?

— Ой! Ты апамятайся! Не дадуць бацькі згоды на наш шлюб!

— Давай спрабуем. Я ў нядзелю прыйду са сватам і паўлітрам. Ты не едзь у нядзелю. Выдумай нешта.

Дома я сказала бацькам, што ў нядзелю не паеду, хачу быць на апошняй забаве ў вёсцы. Паеду ў панядзелак.

У нядзелю пайшлі мы з сястрой на забаву.

— Ідзем дадому, — гавару. — Няма тут з кім танцаваць. Заўтра мне трэба рана ўстаць.

Дома за сталом сядзеў мой нарачоны са сватам. Быў гэта яго дзядзька з суседняй вёскі.

Мы былі згодны наконт жаніцьбы. Бацькам было сорамна ўмешвацца, бо вельмі шанавалі дзядзьку Юркі.

Калі пайшлі, бацькі пачалі на мяне сварыцца.

— Ты, напэўна, з ім зацяжарыла, бо чаго ты за яго хочаш ісці? Дабро цябе там чакае? — крычала маці.

— Калі так табе яго хочацца, выкапай сама ўсю бульбу, а тады зробім вяселле! — рашыў бацька.

Мама паехала памагаць другой дачцэ пры дзецях, а я сама два месяцы капала бульбу. Юрка прыязджаў на матацыкле і насіў кошыкі. Пасля капання мы падаліся ў загс, і толькі тады мама прыехала рыхтаваць вяселле.

Пажыла я ў свякрухі! Часта прыходзіла з плачам да бацькоў. Маці не хацела слухаць мае скаргі. Бацька забраў мяне дадому. Муж пайшоў за мной. Пажылі мы трохі ў маіх бацькоў, а пасля выехалі ў горад і пабудавалі свой уласны дом.

**Аўрора**

# Прага духоўнай вышыні

**Да 100-годдзя з дня нараджэння Казіміра Сваяка**

У запасніках нашай культурнай спадчыны яшчэ дагэтуль хаваецца нямала імёнаў людзей, якія шмат зрабілі для духоўнага ўзбагачэння свайго народа, развіцця яго патрыятычнай самасвядомасці, нацыянальнай годнасці, чый творчы багаж застаецца каштоўным набыткам і для нас сёння. Па розных прычынах шаблон артадаксальнай ідэалогіі аддзяляў іх ад нас шчыльнай заслонай і асуджаў на забыццё. Да ліку такіх імёнаў адносіцца імя беларускага пісьменніка Казіміра Сваяка (1890—1926 г.г.).

Нядоўгае і драматычнае жыццё гэтага чалавека было вельмі напружаным і інтэнсіўным, напоўненым вялікім духоўным зместам. Па роду сваіх непасрэдных заняткаў каталіцкі святар, ксёндз, ён разумеў уласную місію шырока, як дзейнасць па духоўным ачышчэнні і абнаўленні чалавека, вяртанні яго да высокіх маральных і нацыянальна-патрыятычных асноў жыцця. І сваё слова рэлігійнага прапаведніка ў беларускім касцёле ён зрабіў словам беларускага асветніка і пісьменніка.

Зрэшты, у такой ролі К. Сваяк не быў адзінокім, поруч з ім стаяць яго суайчыннікі — беларускія пісьменнікі і працаўнікі на ніве каталіцкай рэлігіі, нашы землякі Андрэй Зязюля, Вінцук Адважны, Адам Станкевіч, Янка Быліна. К. Сваяк вылучаецца сярод іх хіба што асаблівай самаахвярнай чыннасцю духоўніка, ды і значнай пісьменніцкай папулярнасцю ў жыцці Заходняй Беларусі.

Нарадзіўся К. Сваяк (Стаповіч Канстанцін) 19 лютага 1890 г. у вёсцы Барані (цяпер Астравецкага раёна) у сялянскай сям'і. Бацька меў паўвалокі зямлі, і працавітая, гаспадарлівая сям'я жыла дастаткова заможна. Як і іншыя вясковыя дзеці, Кастусь рана далучыўся да працы дарослых, дапамагаючы бацькам на полі, у гумне, спраўляючы абавязкі пастуха. У маленстве яго і брата Альбіна (у будучым вядомы грамадска-палітычны і культурны дзеяч Заходняй Беларусі) даглядала вясковая бабка, якая ведала безліч казак, паданняў, страхотлівых быляў. А калі ўлічыць яшчэ, што жылі пры лесе, які ўражваў сваёй таямнічай магутнасцю і хараством, то будзе зразумела, як фарміравалася чуйная, паэтычная душа. Вучыўся першапачаткова ў гарадскім вучылішчы ў Свянцянах (цяпер Літоўская ССР). У 1906—1907 г.г.



жыў у Вільні, рыхтаваўся да паступлення ў духоўную семінарыю. Тут пазнаёміўся з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам, газетай „Наша ніва“, і з гэтай пары яго жыццёвая дарога была неадлучнай ад грамадска-патрыятычных спраў.

У 1908 г. паступіў у Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. На чацвёртым годзе вучобы давялося надоўга выехаць у Закапанае: у яго, слабага здароўем, пачынае развівацца туберкулёз. Пазней паездкі на гэты польскі курорт будуць усё больш частымі.

У 1914—1916 г.г. К. Сваяк — у родных мясцінах, нясе службу ў касцёле ў вёсцы Клюшчаны (Астравецкі раён). Тут ён разгортвае сярод парафіян шырокую культурна-асветную працу. Не толькі касцельныя казанні вядзе на беларускай мове, але і стварае вялікі — у 40 чалавек — хор беларускай песні, арганізуе лекцыі па беларусазнаўству (тэксты рыхтуе сам, а выступаюць удзельнікі хору). Стварае ў тутэйшай парафіі 7 беларускіх школ і нават беларускія настаўніцкія курсы. У 1916 г. на базе клюшчанскага хору ўзнікае гурток беларускай моладзі „Хаўрус сваякоў“, які хутка здабывае прыхільнае зацікаўленне ў наваколлі. Гурток ладзіць беларускія спектаклі, канцэрты, практыкуе рэфераты на тэмы нацыянальнай гісторыі і культуры. У штодзённых дачыненнях з людзьмі ксёндз імкнецца будзіць іх душэўную памяць аб родным — апавядае народныя казкі, чытае вершы беларускіх паэтаў, раздае беларускія кніжкі.

Але ўсё больш праследуе яго за такія справы віленскае касцельнае начальства. Службовымі папярэджаннямі, пагрозамі і асабліва пераводамі на новае месца працы стараюцца сарваць беларускую асветніцкую дзейнасць К. Сваяка. У лістападзе 1916 г. яго перакідаюць на Беласточчыну, у Карыцін, дзе мясцовы пробашч патрабуе ад яго забыцца на ўсякую беларускасць. У 1919 г. К. Сваяк — у Лапеніцы на Брэстчыне, з

# ЗНАЎЦА ЗЁЛАК

Часта сустракаю яго ў нетрах Белавежскай пушчы. Калі ўсе цягнуць з лесу кошыкі, напоўненыя грыбамі ці ягадамі, ён жа нясе або вязе на веласіпедзе вязкі розных зёлак. Гэта Ян Лапінскі з падбелавежскіх Грудак. Яго тут, у пушчы, ведае амаль кожны. Ян Лапінскі чалавек добразычлівы, стрыманы, а перш за ўсё ўлюблёны ў прыроду. Ад пяці гадоў на пенсіі. Працаваў раней леснікам. Цяпер займаецца лячэннем зёлкамі і экскурсаводствам.

— Адкуль узялося ў мяне захапленне зёлкамі? — усміхаецца Ян Лапінскі. — Што ж, калі ў цябе пачынае хістацца здароўе, ты пачынаеш думаць, як і чым сабе дапамагчы. Мне якраз здалося, што найлепш будзе адклікнуцца да прыроды. Зёлкі павярхоўна я ведаў здаўна і таму лягчэй прыйшлося „ўглыбіцца ў тэму". Пачаў збіраць усялякія кнігі, дапаможнікі, у якіх пісалася аб вырошчванні, збіранні і прымяненні лекавых траў. Найбольш карыснай стала для мяне кніжка польскіх аўтараў А. Ажароўскага і В. Яранеўскага „Лекавыя расліны", дарэчы, яе другое выданне паявілася ў 1989 г. Найлепшыя рэцэптуры знайшоў у дапаможніках айцоў К. Клімушкі і Р. Ф. Срокі. Неўзабаве пачаў лячыць зёлкамі жонку, суседзяў, сваякоў. Калі ў „Газеце Вспулчэснай" надрукавалі інтэрв'ю са мною, пачалі да мяне прыходзіць пісьмы з усяго рэгіёну, з просьбай дапамагчы ў розных хваробах. Магу пахваліцца, што многім людзям я дапамог.

Каб лячыцца зёлкамі, трэба быць перш за ўсё цярплівым. Гэта занятак карпатлівы і доўгі. Той, хто захоча сам збіраць зёлкі, павінен навучыцца добра распазнаваць іх віды. Дапаможную літаратуру знайсці няцяжка. Трэба таксама ведаць, што нельга збіраць зёлкі ўздоўж камунікацыйных артэрыяў. Там расліны атручаныя цяжкімі металамі з аўтамабільных газаў. Нельга збіраць зёлкі зрошаныя, найлепшая пара на зборку — гадз. 13—15. Карэнняў нельга дабываць у перыяд вегетацыі раслін. Зёлкі сушым у цені, у месцы са скразняком.

Ян Лапінскі ахвотна дзеліцца сваімі ведамі з удзельнікамі экскурсій (у год абслугоўвае 70—80 груп). Людзі слухаюць яго з захапленнем. Зрэшты, многа чаго цікавага можа расказаць ён аб усёй прыродзе Белавежскай пушчы. Калі каму з чытачоў давядзецца арганізаваць экскурсію ў Белавежу, на экскурсавода рэкамендую Яна Лапінскага.

**Пётр Байко**

Фота Войцеха Рынажэўскага



*Ян Лапінскі на стаянцы аўтамабіляў у Белавежы.*

## ГС У ОРЛІ

28 лютага г.г. адбыўся сход членаў Гміннай спулдзельні ў Орлі, на якім абмяркоўвалася справаздача з дзейнасці кааператыва ў 1989 годзе. Гадавы гандлёвы абарот склаў суму 3 мільярды 642 мільёны 829 тысяч злотых. Арлянскі кааператыў мае 17 крамаў і адзін вясковы клуб селяніна. Апрача гандлю ГС займаецца таксама вытворчасцю. Тут жа працуе пякарня, мясазавод, сталовая, рамонтны завод.

У мінулым годзе мясазавод вырабіў 384 тоны вяндлін (на 21 тону менш, чым у 1988 годзе). Пякарня спякла 484 тоны хлеба і булак на суму 89 мільёнаў злотых, але прадукцыя паменшылася ў параўнанні з мінулым годам на 33 тоны. Дзеецца гэта таму, што зараз сяляне самі сталі пячы хлеб з увагі на дарагавізну ў крамах. У Орлі ў мінулым годзе млын перамалоў 876 тон збожжа, на 55 тон больш, чым у 1988 годзе.

Гмінная спулдзельня мае таксама і свае клопаты. Зараз няма дзе прадаваць лішак хлеба. Вядуцца перагаворы з гандлёвымі арганізацыямі ў Бельску і Гайнаўцы. Некаторыя вясковыя крамы сталі нерэнтабельнымі і трэба было б іх закрыць, напрыклад, у Рудутах. Але ж на нашых вёсках многа людзей у пенсіённым узросце. Дзе ж ім купіць неабходныя прадукты?

ГС мае клопаты з крэдытамі ў банку і таму прапануе сваім членам павысіць членскія ўзносы. Але невядома, ці людзі на гэта згодзяцца. Калі не, то будучыня кааператыва выглядае песімістычна. **М. Ляшчынскі**

1920-га — у Засвіры каля Свянцян, і ўсюды працягвае ён энергічную працу з людзьмі. Толькі што цяпер выезды ў Закапанае становяцца і часцейшымі, і даўжэйшымі. Хвароба наступала, трэба было паспець ажыццявіць задуманае, і ён спяшаўся.

Ён усё жыццё спяшаўся і заўсёды быў незадаволены сабою, бо надта блізка прымаў да сэрца нягоды народа. 7.V.1917 запісаў у дзённіку: „Сумна мне, хоць ты вазьмі ляж ды і ўмры. Але як тут уміраць, нічога добрага не зрабіўшы? А мо і не зраблю? От біся, чалавеча, як рыба аб лёд! Калісь трапіш у прорубь!..

Баліць мне сэрца за народ, катарага няшчасце не магу апісаць.

Пячэ нутро маё, сум з бяссільнасці сваёй, да направы перш сябе, потым бліжніх маіх.

Плача сэрца маё над нядоляй, над упадкам духа тых, што звалі сябе дужымі".

Дзённік К. Сваяка, які ён вёў усё сваё свядомае жыццё, цікавы як багаты дакумент часу, як рэпартаж-споведзь развітай душы, якая шукала магчымасці ахвярна паслужыць людзям дзеля высокіх ідэалаў дабра і справядлівасці. Дзённік мае і бясспрэчнае літаратурнае значэнне: у ім ёсць сапраўдная паэзія, лірызм, добрая мастацкая назіральнасць, у ім пульсуе драматычная думка пра перажытае. Твор гэты выйшаў асобнаю кніжкаю пасля смерці аўтара — „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі" (Вільня, 1932).

Літаратурную творчасць К. Сваяк не аддзяляў ад сваіх клопатаў духоўніка, прапаведніка высокай маральнасці і чысціні. Пачаўшы друкавацца ў 1913 г., у тым жа годзе выпусціў асобным выданнем публіцыстычны трактат „Алькаголь", дзе паказаў шкоднасць п'янства, якое трактавалася як спадарожнік беднасці і духоўна-інтэлектуальнай адсталасці, як паказчык маральнага захворвання чалавека. Тэму гэтую разгортвае К. Сваяк у вершаваным апавяданні філасофска-этычнага кірунку „Чарку дай, браце...", выдадзеным у Вільні ў 1926 г. Пісьменнік разумеў, што спойванне працоўнага чалавека — спосаб яго пакарэння тагачаснаму сацыяльна-палітычнаму рэжыму. Таму гуманістычныя ідэі цвярозасці разглядаў як важны жыццядзейны фактар, што спрыяе адраджэнню народа. У гэтых адносінах паказальная і яго вясковая драма „Янка Канцавы", напісаная для гуртка „Хаўрус сваякоў" і выдадзеная ў 1920 г. Вельмі цікавая ў мастацкіх адносінах яго драматычная паэма „Купалле" (Вільня, 1930), напісаная ў стылі паэтычнай містэрыі, заснаваная на беларускіх міфах, багатая дзівоснай фантазіяй.

Найбольш значная кніга К. Сваяка — зборнік вершаў „Мая ліра", выпушчаны папулярным сярод масавага чытача беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні ў 1924 г. Паэзія яго тут прасякнута духам пратэсту супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Гэты неўтаймоўны дух горача апелюе і да боскай справядлівасці, хаця нялёгка яднаюцца ў вершах зямныя і вышэйшыя рэлігійныя памкненні. Нярэдка душа лірычнага героя разрываецца супярэчнасцямі. Але паэт жыве вераю ў перамогу дабра і чалавечнасці, у сілы роднай зямлі.

Калі мой дух пазве Бог
за магілы,
Калі змагаціся не стане мне
ўжо сілы,
Калі цяжкі дзірван залягне
нада мной, —
„Зямліца родная, ты будзь
тады гарой!"

Спішаная туга адзіноцтва і жыццёвых страт спалучаецца ў яго вершах з уяўленнем пра чалавека як часціну сусвету, як носьбіта вялікіх духоўных каштоўнасцей. У яго ўспрыманні жыцця шмат святла, мажорных нот.

Свет чароўны цудоўны
мяне ўзяў у абоймы,
Напаіўшы адвечнай журбой
ідэалу.

Ён паэтызаваў прыроду, Бацькаўшчыну, маральнае хараство, працу на зямлі. І ўсяляк стараўся задавальняць людскія патрэбы ў душэўным спажытку. Для таго і пісаў. Шмат часу і сіл аддаў падрыхтоўцы малітоўніка для беларусаў-католікаў, які назваў „Голас душы". Гэтую салідную кнігу — 320 старонак — ён паспеў выпусціць у свет, а пасля смерці аўтара, у 1934 г., выйшла яе другое выданне.

К. Сваяк многа друкаваўся ў перыёдыцы. У 1913—1915 г.г. яго вершы змяшчаліся ў віленскай газеце „Беларус", якая выпускалася лацініцаю і адрасавалася каталіцкаму насельніцтву. У 20-я гады яго лірыку, паэтычныя замалёўкі прозаю, артыкулы друкуюць такія заходнебеларускія выданні, як „Наша думка", „Беларускі звон", „Новае жыццё", „Сялянская ніва", „Беларуская крыніца".

Памёр К. Сваяк 6 мая 1926 г. у бальніцы ў Вільні, у Вільні і пахаваны — на могілках Роса, на літаратурнай горцы.

Цікавасць да яго творчасці ў Заходняй Беларусі не зменшылася ў наступныя гады. Творы яго публікуюцца ў часопісах „Шлях моладзі", „Хрысціянская думка", „Калоссе", у беларускіх календарах. Памяць пра паэта-духоўніка жыве ў народзе. Праз 10 гадоў пасля скону К. Сваяка Міхась Машара ў „Калоссі" напісаў:

Хоць ты змоўк... І хоць ліра
разбіта
І хоць новыя страты
баляць, —
Над краінай туманам
спавітай, —
Тваіх песняў акорды звіняць.
Я прыйшоў тут табе
пакланіцца,
Рана змоўклы змагар і паэт, —
Хай табе сон святляны
прысніцца
І ад роднай краіны прывет.

**А. Пяткевіч**

(„Гродненская правда" № 37 ад 20 лютага 1990 г.)




## СМАЛЯНЫ ЧОРТ

Няма сумнення, што смаляны чорт прыйшоў у народную творчасць Беласточчыны з Палесся. Палессе было краінай шматлікіх смалярняў, і палешукі стварылі гэтую фальклорную постаць. Наш смаляны чорт паявіўся ў лесе каля Пагарэльцаў. Не без дай прычыны. Атрымаў сваё заданне: сцягваць у пекла як найбольш смалы і пільнаваць, каб мужыкі не яе падкрадалі.

Смаляры стараліся залагодзіць чорта. Калі гэта ўдавалася, дык здаралася не раз і так, што той дапамагаў ім у працы.

— А ўжо нельга было хваліцца, што ў працы пры смале можна абыйсціся без чорта, — пачаў сваё апавяданне дзядуля Анупрый. — Калі толькі чорт гэтае пачуе, дык адпора такую штучку, што не будзеш ведаць, за што рукі зачапіць.

Калісьці тут адзін смаляр падкапаў хвою, каб дабрацца да кораня, дзе найбольш смалы. Хвоя павалілася, а смаляр вырашыў адпачыць. Сеў на хвою ды і закурыў. Аж бачыць — пчаляр з суседняй вёскі ідзе.

— Ну і меў чорт работы, пакуль гэтакі старчавік вывярнуў, — паказвае пчаляр на вывалены корань.

— А навошта мне чорт, калі я з Богам у згодзе жыву, — адказаў той.

Пчаляр на гэта нічога не адказаў, толькі неяк дзіўна здрыгануўся і спытаў:

— А што ты цяпер будзеш рабіць?

— Ну вядома, сёння адрэжу корань і кавалак пня, а заўтра пакалю на лучыну, — адказаў смаляр.

— Ну а што з калодаю зробіш? Нічагаватая, не выкідаць жа, — не адступае той.

— Пэўна, на дошкі парэжу.

— Паслухай ты мяне, — раіць яму пчаляр. — Зрабі ты сёння з адзін вулік. Сённяшні дзень вельмі шчаслівы на пчолкі. Так і пабачыш, як рой сядзе.

Падумаў смаляр, што мо і праўда. Добра было б мець свой мёд. Пасечнік пайшоў, а смаляр прыняўся даўбсці калодку на вулей. Да самага вечара выдоўбаў. І калі толькі засталося са тры разы сякераю даўбануць, калодка затрашчала, адлупілася ад пня даўжэзная шчэпка, а пень падняўся ды і стаў на сваё месца, адкуль яго выкапаў смаляр.

— А ўсё яно ў тым, — працягвае свой расказ дзед Анупрый, — што смаляр не распаловіў старчовага кораня. Кожны смаляр павінен быў ведаць, што калі гэтага не зрабіць перад тым, як прыняцца за апрацоўку пня, смаляны чорт уцягне ўсё на сваё месца. Такім спосабам ён бароніць смалу. Смаляр гэта ведаў, але нейкі чмут на яго найшоў.

— Няйначай пасечнік з яго пажартаваў, — падумаў так і вырашыў схадзіць да яго ды прасабачыць за дурныя штучкі.

Так і зрабіў.

— Пастой жа, я табе падзякую, — гаварыў у злосці сам з сабою, ідучы да пчаляра.

Той якраз сядзеў і вячэраў.

— Што ж ты, такі-не сякі, на людзей дурман напускаць будзеш. Я праз цябе цэлы дзень змарнаваў, — і тут выгарнуў усё, як было.

— Адчапіся ты ад мяне! — мацюкнуў той. — Яшчэ чаго бракавала, каб да цябе ў лес хадзіць. Я сёння з панадворка не выходзіў. Не верыш, то людзей папытай.

Толькі тады смаляр здагадаўся, што гэта чорт смаляны быў. І ўспомніў, як той здрыгануўся, калі смаляр пра Бога ўпамянуў.

**Міхась Шаховіч**




Дарагое Сэрцайка, мой муж вельмі шмат мне расказваў пра тое, што ў яго на рабоце паявілася новая працаўніца, якая прыехала з іншага горада. Неяк усё так складвалася, што меў ён нагоду з ёй гаварыць то аб тым, то аб сім — аб хатніх справах, аб службовых, а нават і аб палітыцы, — хаця працавалі яны ў зусім розных аддзелах. Мяне гэта не хвалявала зусім, хаця момантамі ўжо абрыдла слухаць: то яна сказала так, то яна сказала гэтак, адным словам, стала аўтарытэтам для майго мужа. Аднак жа гэтая жанчына была на 15 гадоў старэйшая за яго. Я была ўпэўнена, што пачуцці тут не адыгрываюць ніякай ролі, проста яднае іх сяброўства.

І вось аднойчы мы ў нядзелю выбраліся з мужам і дзіцём на шпацыр у парк. Было шмат людзей, бо люты быў сёлета вельмі цёплы. У пэўным моманце мой муж змяніўся на твары, пачырванеў, пасля зрабіўся бледны, ізноў пачырванеў, а пасля прывітаўся з нейкай жанчынай. Яна ветліва затрымалася каля нас і пачала з ім гаварыць на „ты“, да мяне звяртаючыся на „пані“. У мяне пацямнела ў вачах. Была гэта жанчына на нязвыклай прыгажосці, на выгляд гадоў 35. Майму мужу, забылася табе напісаць, — 25 гадоў. З далейшай іх размовы вынікла, што гэта тая яго сяброўка з працы.

Ад таго часу не маю спакою. Хаця карыстаюся я поспехам у мужчын, але не заўважаю цяпер нікога, у галаве маёй адно: ці мой муж мне яшчэ не здрадзіў?! Я чапляюся да яго (сама ўжо гэта бачу) калі трэба і не трэба. Пачала заходзіць да яго на работу. Нібы каб разам з дзіцём прайсціся пасля работы, але ж ведаю сама, што хаджу, каб яго праверыць.

Дарагое Сэрцайка, скажы мне, калі ласка, чаму яно так? Калі думала, што гэтая жанчына старая і брыдкая, дык зусім не была зайздроснай ў адносінах да мужа. Калі ж убачыла, якая яна прыгожая, дык не маю спакою. Што мне цяпер рабіць? Вельмі баюся, каб не страціць майго мужа, бо я яго вельмі кахаю. Але няўжо ён мог так хутка закахацца? Мы ж па шлюбе ўсяго чатыры гады...

**Альжбета**

Альжбета! Закахацца можна заўсёды — на гэта лякарства і правілаў няма. Магу цябе, аднак, супакоіць, што калі гэтай жанчыне ўжо сорак гадоў, як вынікае з твайго лісту, дык, бадай, нічога трывалага ўжо з гэтага не будзе. Аднак на нейкі час закахацца ён мог.

Што датычыць тваёй зайздрасці, дык усё ў цябе зусім натуральнае. Ты стала зайздроснай, бо адчула ў гэтай жанчыне саперніцу, вартую цябе, а мо нават яшчэ і больш вартую. Заўваж, што тыя найпрыгажэйшыя заўсёды з'яўляюцца аб'ектам нейкіх насмешак, абгавораў з боку іншых жанчын: а то малыя грудзі, а то рэдкія валасы, а то крывыя ногі. І наогул усе яны, на думку іх сяброwак, найдурнейшыя і найпрымітыўнейшыя. Праўда, што не заўсёды розум ідзе ў пары з прыгажосцю, але не заўсёды ён бывае ў пары і з брыдотай. Таксама і ў каханні бывае. Тое, што жанчына прыгожая, не заўсёды сведчыць аб тым, што карыстаецца яна поспехам у мужчын. Бывае часта так, што адкрые дзяўчына рот, каб нешта сказаць, а ўжо хлопец горнецца да другой, брыдчэйшай, але як жа намнога больш інтэлігентнай і абаяльнай.

На жаль, з апісанага табою выпадку не вынікае, што сяброўцы твайго мужа бракуе розуму. У гэтым выпадку можаш разлічваць толькі на яе немаладыя ўжо гады, якія сведчылі б аб тым, што і яна ўжо звязана нейкімі сямейнымі вузламі, ад якіх не так хутка захацела б адмовіцца.

**Сэрцайка**




### КУРЫЦА ФАРШЫРАВАНАЯ

На маладую курыцу вагою каля паўтара кілаграма трэба ўзяць 10 дэкаў сцертай булкі, 2 яйкі, 2 лыжкі масла, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 5 дэкаў разынак, 1 лыжачку цукру, 2-3 лыжкі смятаны, соль.

Ачышчаную курыцу старанна памыць зверху і ў сярэдзіне, абсушыць, абрэзаць крылцы і шыю, з якіх можна зварыць суп. Курыцу пасаліць, напоўніць фаршам, падрыхтаваным наступным чынам. Разынкі памыць, памыць яйкі і аддзяліць жаўткі. Масла сцерці, дадаючы па адным жаўтку. Атрыманую масу перамяшаць з пятрушкай, разынкамі і прасеянай сцертай булкай, дадаць крыху солі. З бялкоў збіць пену. Калі будзе яна ўжо цвёрдая, дадаць цукар і збіваць яшчэ хвіліну, а тады спалучыць з падрыхтаванай масай. Напоўненую фаршам курыцу сашпіліць шпількамі для птушак, палажыць у брытфану, змазаць смятанай і ўставіць у гарачую духоўку. Калі ўжо курыца падрумяніцца, накрыць яе алюмініевай фольгай, крыху даліць вады і дапячы, змяншаючы агонь. Перад падачай курыцу парэзаць на порцыі, фарш выняць, нарэзаць яго. Порцыі курыцы пакласці на талерку так, каб выглядала, што ляжыць цэлая курыца. Навокал пакласці кавалкі фаршу і печаную бульбу, прыбраць лісткамі зялёнай пятрушкі і брусніцамі. Падаваць са шпараговай фасолькай, салатай з чырвонай капусты або з цыкорыі.

### КУРЫЦА, ФАРШЫРАВАНАЯ РЫСАМ

На 1 курыцу вагою каля 1 кг трэба ўзяць 5 дэкаў рысу, 25 дэкаў памідораў, 5 лыжак дробна пасечанай зялёнай пятрушкі з укропам, 1 яйка, соль, перац, папрыку, лімонную скурку, 1 лыжку масла.

Рыс перабраць, памыць, усыпаць у пасолены кіпецень (2 шклянкі), варыць мінут 5-8, адцадзіць. Памідоры памыць, абліць кіпетнем, зняць скурку, дробна нарэзаць. Падрыхтаваныя памідоры перамяшаць з крыху падвараным рысам, дадаючы яйка, растопленае масла і пасечаную пятрушку з укропам. Запрaвіць па смаку соллю, перцам і змеленай папрыкай. Фарш павінен быць востры. Можна дадаць да яго каля 1/3 лыжачкі лімоннай скуркі.

Памыўшы курыцу, абсушыць яе. Сярэдзіну напоўніць падрыхтаваным фаршам, сашпіліць шпількамі для птушак або сшыць баваўнянай ніткай. Пасаліць курыцу толькі зверху. Палажыць яе ў посуд, пастаўлены на каструльку з кіпячай вадой, накрыць. Варыць на пары каля паўтары гадзіны. Гатовую курыцу парэзаць на порцыі, выняць фарш, парэзаць яго на скрылёчкі. Порцыі курыцы класці на талерку, на лісткі салаты, навокал пакласці фарш. Дадаць салату з варанай ці сырой гародніны.

**Гаспадыня**




Нядаўна прысніўся мне такі сон. Я знаходжуся ў царкве. Але выгляд яе не царкоўны. Быццам гэта нейкі пакой, у якім вельмі многа кветак. Кветкі гэтыя абапертыя аб сцяну, укругавую пакоя. Яны незвычайна прыгожыя. Гэта ружы — белыя і светла-ружовыя, белыя мечыкі (гладыёлусы). Іншага колеру не было відаць. Увайшоў бацюшка (я яго ведаю, ён цяпер у Амерыцы). Апрануты звычайна. Гаворыць мне, што баліць у яго нага. Цяжка яму хадзіць. Потым ужо і дзве сяброўкі з працы тут апынуліся. Адна кажа, што ёй патрэбны кветкі. Мусіць яна іх даць нейкай дзяўчынцы. Я гляджу на гэтыя цудоўныя кветкі і думаю: „Я ёй зараз падбяру нейкія кветкі. Ружы, думаю, хоць і вельмі прыгожыя, мабыць не падыходзяць для дзяўчынкі“ І ўзяла я букет белых гладыёлусаў. Яны былі невялікія, тонкія і белага колеру. Нават галінкі ў іх таксама былі белыя. Гэты прыгожы букет падняла я ўверх і накіравалася да сяброўкі. Тут і прачнулася.

А маёй суседцы прысніўся такі сон. Нібыта я папрасіла яе, каб яна папільнавала двое маіх дзяцей. Мы з мужам кудысьці мелі ісці. Яна прыйшла. Глядзіць, я нясу многа каўбас, адну дала ёй, каб пакарміла дзяцей, а рэшту панесла схаваць у пакой, ды ў шафу, дзе вісіць вопратка. Але вось што, каўбасы былі моцна сапсаваныя. На іх было відаць многа зялёнай плесні. Яна думае, як жа гэтай сапсаванай каўбасой накарміць дзяцей? Але не сказала нічога, баючыся, што я пагневаюся.

**Марыя**

Марыя! Меў быць смутак, бо была ты ў царкве, але ж з гэтай царквы раптам зрабіўся пакой, поўны кветак. З нейкага вялікага смутку вынікне для цябе вялікая радасць. Гэта б датычылася першага, твайго сну.

Што датычыцца сну тваёй суседкі, то можа ён датычыцца нейкай дробнай хваробы тваіх дзяцей. Аб гэтым сведчыць тая сапсаваная каўбаса з плесняй.

**Астрол**



„Ніва“ 25.III.1990 г.

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Наш чытач з Мінска Алесь Баркоўскі даслаў у рэдакцыю ксеракопію настольнага рэдакцыйнага экземпляра дзіцячай кніжачкі, выдадзенай у 1938 годзе ў Мінску. Гэта — „Трое парасятак“, казка, запісаная паводле мультыплікацыйнага фільму вядомага амерыканскага кінарэжысёра Уолта Дыснея, аўтара мышкі Мікі (1928 г.) і качара Дональда (1929 г.). Выдала тады гэтую кніжачку дзяржаўнае выдавецтва „Дзіцячая літаратура“.**

**Прапануючы нашым чытачам гэтую цікавую казку для дзяцей, захоўваем арыгінальныя ілюстрацыі, зробленыя да гэтай кніжачкі ў 1938 г.**

**Дзякуем Алесю Баркоўскаму за мілы падарунак і маем надзею, што нашым чытачам спадабаецца казка.**




Жылі-былі на свеце трое парасятак. Трое братоў. Усе аднолькавага росту, кругленькія, ружовыя, з аднолькавымі смешнымі хвосцікамі.

Нават імёны ў іх былі падобныя. Звалі парасят: Ніф-Ніф, Нуф-Нуф і Наф-Наф. Жылі яны ў лесе, куляліся ў зялёнай траве, грэліся на сонейку, збіралі жалуды. Так праходзіла лета.

Але вось надышла восень.

Сонца ўжо не так моцна прыпякала, шэрыя воблакі цягнуліся над пажоўклым лесам, доўга не высыхалі лужыны.



— Час нам падумаць аб зіме, — сказаў неяк Наф-Наф сваім братам, прачнуўшыся досвіткам. — Я ўвесь дрыжу ад холаду. Мы можам прастудзіцца. Давайце пабудуем сабе дом з трох пакояў і будзем жыць разам, пад адной цёплай страхой.

Але яго браты не хацелі брацца за работу. Значна прыемней у апошнія цёплыя дні гуляць і скакаць па лугу, чым капаць зямлю і цягаць каменне.

— Да зімы яшчэ далёка. Мы яшчэ пагуляем, — сказаў Ніф-Ніф і перакуляўся праз галаву.

— Калі трэба будзе, я сам пабудую сабе дом, — сказаў Нуф-Нуф і лёг у лужыну.

— І я таксама, — дадаў Ніф-Ніф.

— Ну, як хочаце. Я буду адзін будаваць сабе дом, — сказаў тады Наф-Наф. — Я не буду вас чакаць.

З кожным днём рабілася ўсё халадней і халадней. Але Ніф-Ніф і Нуф-Нуф не спяшаліся. Ім і думаць не хацелася пра работу.

Яны весела гулялі ў свае парасячыя гульні, куляліся і купаліся ў лужыне, пахрукваючы свае вясёлыя песенькі.

— Сёння мы яшчэ пагуляем, — казалі яны, — а заўтра з раніцы возьмемся за работу.

Але і ў наступны дзень яны гаварылі тое самае.

І толькі тады, калі вялікая лужына каля дарогі пачала кожную раніцу пакрывацца тоненькай корачкай лёду, лянівыя браты ўзяліся, нарэшце, за работу.

Ніф-Ніф парашыў, што прасцей і хутчэй за ўсё змайстраваць дом з саломы. Ні з кім не параіўшыся, ён так і зрабіў. Ужо к вечару яго хаціна была гатова.

Ніф-Ніф паклаў на страху апошнюю саломінку і, вельмі задаволены сваёй работай, весела заспяваў:

Хоць паўсвета абыйсці,
Абыйсці, абыйсці,
Лепшай хаткі не знайсці,
Не знайсці, не знайсці!

Напяваючы гэтую песеньку, ён накіраваўся да Нуф-Нуфа. Нуф-Нуф недалёка таксама будаваў сабе домік.

Ён стараўся хутчэй пакончыць з гэтай нуднай і нецікавай справай. Спачатку, таксама як і брат, ён хацеў пабудаваць сабе дом з саломы, але потым вырашыў, што ў такім доме зімой будзе вельмі холадна. Дом будзе больш моцным і цёплым, калі пабудаваць яго з галінак і тонкіх дубцоў.

Так ён і зрабіў.

Ён убіў у зямлю калы, пераплёў іх дубцамі, на страху навалілісця, і к вечару дом быў гатоў.

Нуф-Нуф з гонарам абышоў яго некалькі разоў вакол і заспяваў:

У мяне вось добры дом,
Новы дом, моцны дом.
Мне не страшны дождж і гром,
Дождж і гром, дождж і гром!

Не паспеў ён скончыць песеньку, як з-за куста выбег Ніф-Ніф.

— Ну, вось і твой дом гатоў! — сказаў ён брату. — Я казаў Наф-Нафу, што мы і адны ўправімся з гэтай работай! Цяпер мы з табой вольныя і можам рабіць усё, што нам уздумаецца!

— Пойдзем да Наф-Нафа і паглядзім, які ён сабе збудаваў дом! — адказаў брат.

І яны, вельмі задаволеныя тым, што ім ні аб чым больш не патрэбна клапаціцца, зніклі за кустамі.

Наф-Наф ужо некалькі дзён быў заняты сваёй пабудовай. Ён нацягаў камення, нанасіў гліны і цяпер, не спяшаючыся, будаваў сабе дом, у якім можна было б схавацца ад ветру, дажджу і марозу.



Ён зрабіў у доме цяжкія дубовыя дзверы з засаўкай, каб воўк з суседняга лесу не мог да яго ўлезці.

Ніф-Ніф і Нуф-Нуф засталі брата за работай.

— Што ты будуеш? — у адзін голас закрычалі здзіўленыя Ніф-Ніф і Нуф-Нуф.

— Што гэта, дом для парасяці ці крэпасць? Ці не збіраешся ты з кім-небудзь ваяваць?

І абодва браты так развесяліліся, што іх віск і хрুканне разнесліся далёка па лугавіне.

Наф-Наф прахрукаў ім у адказ:

У мяне больш разумення,
Разумення, разумення,
Я будую дом з каменя,
Дом з каменя, дом з каменя!

**(Працяг будзе)**



*Вершы Віктара Шведа*

### МУЗЫКАЛЬНЫ СЫНОК

Матуля з хлапчуком сваім
Прыйшла ў музычную школу.
— На інструменце духавым
Хоча іграць Мікола.

— А ёсць жа здольнасці ў яго,
Хопіць яму паветра?
— Ён свечкі здзьмухвае агонь
З адлеглых пяці метраў!

### СНЕГАВАЯ БАБА ЦІ БАЛВАН

— Ведаю мо слаба,
Ці ўведзены ў зман:
Снегавая баба
Будзе, ці балван?

А калі балванам
Звецца ўсё-такі,
Тады пастаянна
Толькі род мужскі.

### СЫГРАЙ МНЕ ФІЯТ

За піяніна села Рая,
У вёсцы ўжо цяпер прагрэс.
Пытае Коля: — Што іграеш?
— Іграю брату паланез.

— Калі ты добрая такая, —
Азваўся праз хвіліну брат, —
Дык мне, сястрычка дарагая,
Сыграй яшчэ вялікі фіят.

### ЛАГІЧНА

— Ты апельсінавы п'еш сок
Так без аглядкі, мілы Ваня,
Што неўзабаве, мой сынок,
Зусім аранжавы ты станеш.

— Не буду есці я тварог,
Пасля яго дык маё цела
Ад галавы па пяткі ног
Будзе, матуля, цалкам белым.

### АСНОЎНАЯ РОЗНІЦА

Настаўнік задае задачу
Цікаўным школьнікам бясконца:
— Якую розніцу мы бачым
Між электрычнасцю і сонцам?

— Існуе розніца такая, —
Сцвердзіў удумлівы Сярожа, —
Мы электрычнасць выключаем,
А сонца выключыць не можам.

### ПАМЫЙ НОГІ

Скардзіцца Міхаська брату
Колю:
— Скурчыліся ўжо мае штаны,
Пасля мыцця паменшалі яны,
Іх апранаць я не магу ўжо
болей.

— Я не бачу выхаду другога, —
Адказаў Міхаську яго брат, —
Каб штаны былі зноў акурат —
Хуценька памый ты свае ногі.

### ЗАБАБОННЫЯ БАЦЬКІ

— Мой бацька вельмі забабонны:
З пустымі вёдрамі жанчыну
Угледзіць, дык безабаронны
У хаце зноў ён праз хвіліну.

— Мой забабонны дык іначай:
Убачыць толькі нашу паню —
І я тады ўжо поўны плачу,
Заўсёды ў хаце пакаранне.



Трыо з Храбалоў — удзельнікі мінулагодняга конкурсу беларускай песні для школьнікаў. Фота Я. Чэрнякевіч



## Пішуць школьнікі

Я звяртаюся да Цябе, „Зорка“, каб ты надрукавала на сваіх старонках мой адрас. Вельмі ж мне хочацца мець многа сяброў.

Мяне завуць Міша Волкаў. Вучуся ў сёмым класе. Жыву ў горадзе Баранавічы Брэсцкай вобласці. Добра ведаю сваю родную мову і люблю яе. У вольны ад вучобы час танцую ў палацы культуры ў ансамблі народнага танца „Юрачка“.

Калі будуць пісаць да мяне пісьмы дзеці з Польшчы, дык могуць пісаць на сваёй роднай мове — па-беларуску ці па-польску. Наша сям'я беларуская, але мае дзядуля і бабуля памятаюць і польскую мову (яны з Гродзеншчыны). Мама вучыць і мяне, а ў школе я вывучаю англійскую мову.

Чакаю пісем ад новых сяброў.

Міша Волкаў
БССР, 225320, Брэсцкая вобласць, г. Баранавічы, вул. Леніна 49-58.

## Для самых маленькіх

### ПАДАРУНАК МАМЕ

У мядзведзіцы Настассі
Сёння імяніны.
Сын малы, яе Міхасік
Зранку дом пакінуў.

Захацеў ён маці
Падарыць букецік.
Там, за лясной гаццю,
Май лужок расквеціў.

Доўгая дарога,
Ручаёк папаўся.
Звера вадзянога
Мішка напужаўся.

Звер быў той касматы,
Як пузыр, надзьмуўся,
Пакуль касалапы
Яму не ўсміхнуўся.

Кладку праз рачулку
Прайшоў Мішка смела,
Для сваёй матулькі
Нарваў кветак белых.

### КАЦІНЫ ВОЧЫ

Неяк аднойчы раптоўна уночы
Каці малой разбаleліся вочы.
Каця нічога навокал не бачыць,
Маму ўсё кліча ды голасна плача.
Вельмі баіцца яна медыцыны:
Кропель, уколаў, не любіць рыцыны.
Жучка адчула біду-гора Каці.
Зручны выпадак — і Жучка ўжо ў хаце.
Спрытна узлезла яна на падушкі,
Нешта шукае на твары Кацюшкі.
Сінія Каціны вочкі лізнула,
Гаўкнула тройчы, з пасцелі скакнула.
Звонка смяялася Каця ў пасцелі,
Бо вочкі яе ўжо зусім не балелі.
— Лечыш ты, Жучка, не горш за дакторку,
Жыць пераходзь да мяне у каморку, —
Весела Каця да Жучкі сказала,
А праз хвіліну спакойная спала.

Ніна Захарэвіч

Расціслаў Бензярук

# ЗАЙЦАВА ПОМСТА

(КАЗКА)

Ні за што ні пра што мядзведзь пакрыўдзіў зайца: так стукнуў па галаве лапай, што ў яго ажно іскры з вачэй пасыпаліся.

— За што, Міхайла? — застагнаў заяц.

— Не крыўдуй, Даўгавухі, — сказаў мядзведзь. — Я пажартаваў!

— А калі б я пажартаваў?

— Ха-ха-ха! — зарагатаў мядзведзь. — Каб так жартаваць, трэба маю сілу мець.

Прайшоў час. Аднаго разу заяц убачыў свайго крыўдзіцеля на другім беразе ракі. Мядзведзь збіраў маліны.

— Міхайла, плыві сюды, нешта цікавае скажу! — гукнуў заяц.

— Лепш ты плыві да мяне!

— Які з мяне плывец! Я і вады баюся.

Мядзведзь зацікавіўся, пераплыў раку.

Заяц нізка апусціў галаву, пачухаў за вухам, быццам штосьці прыпамінаючы, уздыхнуў:

— Прабач, Міхайла, забыўся. Пакуль ты плыў, зусім вылецела з галавы.

Мядзведзь моўчкі паплыў назад, у маліннік.

Праз нейкі час заяц гукае:

— Успомніў, Міхайла! Плыві хутчэй!

— А ты адтуль гавары.

— Нельга! Трэба, каб ніхто не чуў.

Мядзведзь, крэкчучы, палез у ваду, пераплыў раку.

Заяц зноў маўчыць.

— Што, забыўся?!

— Забыўся, — ледзь не плача заяц. — Сам не ведаю, што сёння са мною!

— Глядзі, Даўгавухі! Яшчэ раз забудзешся — вушы адарву! — прыгразіў мядзведзь і паплыў у малiннік.

Толькі вылез з вады, а заяц гукае:

— Успомніў, Міхайла! Плыві хутчэй, пакуль не забыўся.

Мядзведзь зноў пераплыў раку.

— Дык што ты хочаш сказаць мне?

— На тым беразе малін шмат.

— І ўсё?!

— А хіба мала? — нібыта здзівіўся заяц. — Спяшайся, а то абяруць дзеці.

Мядзведзь паплыў на другі бераг.

А заяц глядзіць услед ды пасміхаецца: „Лічыў мяне зусім слабым, а я адпомсціў табе, касалапаму здараўяку. Прымусіў паплаваць туды-сюды. Будзеш ведаць, як крыўдзіць зайцоў!“

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Молдавская ССР, 279200, г. Бельцы, ул. Спортивная, 17-2. Карине Ротарь (7 клас).

* * *

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 84, кв. 3. Мучынскай Тані.

* * *

Украінская ССР, 258138, Черкаская обл., Золотоношский район, село Софиевка, ул. Советская, 58. Ясинская Леся (5 клас). Бабуля Лесі таксама адпіша кожнаму, хто да яе напіша. А вось адрас бабулі: УССР, 315300, г. Кременчуг, ул. Первомайская, 44, кв. 3. Ещенко Александра Петровна.

* * *

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 62, кв. 65. Каршакевіч Лена (7 клас).

* * *

СССР, 346300, Ростовская обл., г. Каменск Шахтинский, пер. Ермаковский, 24. Шпиль Наташа (14 гадоў).

* * *

БССР, 225710, г. Пінск, плошча Леніна, 4, кв. 61. Данілкіна Наташа (4 клас).

* * *

Молдавская ССР, г. Бельцы, ул. Когева, 20/20. Абабий Наташа.

* * *

БССР, 220047, г. Мінск, вул Несцерава, 60, кв. 117. Пархімовіч Олі (14 гадоў).

* * *

БССР, 222320, Мінская вобласць, Маладзечанскі раён, в. Краснае, вул. Ілюшына, 46. Чарапок Людміле (6 клас).



### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А

Калі хочаш даведацца, што робіцца на карцінцы, замалюй палі, абазначаныя трохвугольнікамі, цёмна-карычневым алоўкам, квадратамі — светла-карычневым, а кружкамі — шэрым.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul Wesołowskiego 1. „Зорка“

